**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 24 (845) 16 чэрвеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by



# Лучайская парафія запрашае ў паломніцтва

**Ксёндз Мікалай Ліпскі – пробашч парафіі святога Юды Тадэвуша, Апостала ў вёсцы Лучай Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці запрашае ў чарговае паломніцтва.**

На гэты раз яно будзе прысвечана Году Божай Міласэрнасці, а таксама пройдзе па месцах, звязаных з беларускім першадрукаром Францыскам Скарынам, і будзе прымеркавана да надыходзячага юбілейнага году выдання першай друкаванай Біблії на старабеларускай мове.



Абраз Маці Божай Вострабрамскай.

Маршрут пілігрымкі: **Лучай – Вільнюс – Трокі – Кракаў – Вена – Венецыя – Рым – Падуя – Прага – Чэнстахова.**

Час паломніцтва: 19-28 верасня.

Папярэдняя цана – 450 €.

Запісацца і задаць пытанні можна па тэлефонах:

8-029- 952-36-13 (Velcom).

8-033-385-72-92 (МТС).

**У Паставах адбыўся XIX традыцыйны міжнародны фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік», які доўжыўся тры дні – з 10 па 12 чэрвеня. У праграме адбыліся конкурсы выканаўцаў на народных інструментах «Хто каго?», выставы, «Горад майстроў» і забаўляльныя праграмы для моладзі з удзелам лепшых дыджэяў Віцебскай вобласці. Гэта адзін з самых старэйшых фестываляў Беларусі, ён уваходзіць у тройку найбольш прафесійных і папулярных у краіне. У фестывалі ўдзельнічалі прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Польшчы.** *Фота: govorim.by*

## Лукашэнка запатрабаваў не пускаць кіраўнікоў, што не далі рады, на новыя адказныя пасады

**Аляксандр Лукашэнка патрабуе не дапускаць пераходу кіраўнікоў з адной адказнай пасады на іншую ў выпадку іх нездавальняючай працы на ранейшым месцы.**

Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў сёння, прымаючы рашэнне аб кадравых прызначэннях сярод кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

«Не здолеў, значыць, трэба ісці працаваць па спецыяльнасці. Гэта павінна датычыцца ўсіх. Мы павінны дакладна і адназначна ў гэтым плане вызначыцца назаўсёды», — падкрэсліў беларускі лідар.

У той жа час, паводле слоў кіраўніка краіны, добрых кіраўнікоў трэба вельмі сур'ёзна падтрымліваць, асабліва старшыняў райвыканкамаў.

«Я хачу вас папярэдзіць, што адпачываць, на жаль, нам не прыходзіцца. Як былі вы тварам да людзей наперадавой, так і застаецеся», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

*БелТА.*

## Нелегальным таксістам у Віцебску і Наваполацку налічылі падатак у пяцікратным памеры

■ **Сяржук Серабро**

**Таксістаў, якія аказвалі паслугі без дзяржаўнай рэгістрацыі, выявілі падатковыя інспекцыі ў Віцебску і Наваполацку.**

Па выніках праверкі ім быў налічаны адзіны падатак з ужываннем каэфіцыента 5, што для жыхара Віцебска склала 9 200 000 рублёў, а для жыхара Наваполацка — 4 400 000 рублёў.

Таксама мужчынам вынесена папярэджанне-апавяшчэнне пра адказнасць за ажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці без дзяржаўнай рэгістрацыі, паведамляе прэс-цэнтр інспекцыі МНС Рэспубліцы Беларусь па Віцебскай вобласці.



ISSN 2077-8023



### Віцебскі раён

## Пагуляем, як заўжды

■ Чэслаў Якубовіч.

**Сёлета няпростая эканамічная сітуацыя прымушае скарачаць расходы ад сталіцы да ўскраін.**

Зніжэнне пакупніцкай здольнасці насельніцтва адчула па сабе і дырэкцыя фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". За некалькі тыдняў да пачатку гэтага маштабнага культурнага свята яго арганізатары вымушаны былі зноў правесці дабрачынны канцэрт па зборы дадатковых сродкаў на фестывальныя расходы. Гэта свята будзе юбілейным, XXV па ліку, збярэ рэкордную колькасць удзельнікаў, сярод якіх упершыню артысты з Аргентыны і Калумбіі. Бюджэт фестывалю гэтага года – амаль 57 млрд. рублёў, але большая частка расходаў – пазабюджэтныя сродкі. Продаж білетаў невыпадкова пачалі яшчэ напрыканцы зімы, на асноўныя канцэрты ўжо поўнасцю рэалізавалі квіткі, кошт якіх амаль не змяніўся ў параўнанні з 2015 годам. Акрамя выручкі ад білетаў сродкі паступаюць ад шматлікіх спонсараў і партнёраў фестывалю, заключэння дагавораў, ад выкарыстання таварнага знака фестывалю. Усяго ж у абласным цэнтры з 12 па 20 ліпеня пройдзе больш сотні розных імпрэз, творчых сустрэч, кінапрэм'ер. Самі віцябляне і жыхары Прыдзвіння актыўна ўдзельнічаюць у гэтым грандыёзным форуме мастацтваў. Гараджане збіраюцца прычытаць каля тысячы вершаў пра родны Віцебск, у тым ліку і ўласнага сачынення на своеасаблівым фесцэ вулічнага мастацтва. Такое дасягненне падыходзіць для славутай Кнігі Гінеса, але дырэкцыя фестывалю прыдумала завесці ўласную кнігу рэкордаў. Дарэчы, у падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю ўдзельнічаюць усе раёны вобласці, якія прадставяць рэканструкцыю традыцыйных народных касцюмаў "Сцяжкі майстэрства".

### Пастаўскі раён

## У полі талакой

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе веснавая сяўба на Віцебшчыне паўсюдна зацягнулася з-за зацяжных праліўных дажджоў**.

Нягледзячы на капрызы надвор'я, у Пастаўскім раёне змаглі да сярэдзіны мая пасеяць лён на плошчы 2 тысяч гектараў. Зрабіць гэта было няпроста, бо мехатрад мясцовага льнозавода і яшчэ шэраг ільносеючых гаспадарак ніколі раней не вырошчвалі даўгунец на такіх вялікіх участках. Дарэчы, землі пад "паўночны шоўк" неабходна падбіраць з пэўнай кіслотнасцю глебы і на адно і тое ж поле можна вярнуцца толькі праз 5 гадоў, інакш не пазбегнуць розных хвароб раслін. Каб атрымаць якасную трасту, штогод неабходна падбіраць спрыяльныя ўчасткі, а саму сяўбу лёну таксама праводзіць у сціслыя тэрміны. У Паставах да таго ж дзейнічае пасля мадэрнізацыі пабудаваны новы льнозавод, яму патрабуецца цяпер вельмі шмат сыравіны на перапрацоўку. Пастаўчане самастойна не справіліся б з гэтай задачай, але сёлета на дапамогу мясцовым ільноводам прыйшлі мехатрады з Глыбоцкага, Міёрскага і Верхнядзвінскага раёнаў, дапамаглі выканаць комплекс работ. Летась мясцовы льнозавод самастойна нарыхтаваў 3,7 тысячы тон трасты, але гэтага для загрузкі прадпрыемства мала. Да таго ж завод аб'явіў тэндар на пастаўку новай вытворчай лініі, бо эксперыментальная беларуска-бельгійская лінія часта ламалася і прастойвала. Акрамя пастаўк валакна пастаўчане ў сябе наладзілі выпуск паклі, вацінну, вяроўкі, чэсаныя ленты, яны могуць выраблць і пелеты з даўгунцу.

### Полацкі раён

## Да бяды адзін крок

■ Станіслаў Раманчук.

**З надыходам цёплых сонечных дзён, калі навокал так цудоўна ажыла прырода, людзі здаваліся б, павінны вельмі радавацца жыццю, але выходзіць зусім наадварот.**

Жыхароў старажытнага Полацка днямі шакіраваў факт жудаснага забойства маладой гараджанкай сваёй жа роднай сястры. У тую ноч 19-гадовая палачанка вярнулася дамоў пасля працы ў другой змене. Неўзабаве прыйшла ў кватэру на моцным падпітку яе старэйшая на чатыры гады сястра, якая апошнія паўгода нідзе не працавала і прыкладвалася да бутэлькі і ў грамадскіх месцах, за што яе аштрафавалі. Паміж блізкімі людзьмі ўзнік востры канфлікт, а малодшая не вытрымала брыдкіх слоў у свой адрас і некалькі разоў ударыла крыўдзіцельку малатком па галаве. Пацярпелая неўзабаве памерла, маладую забойцу арыштавалі, яе чакае суд і турма. А як перажыць гэту бяду іх бацьку, які ў момант трагедыі ўжо спаў. На наступны дзень мясцовыя медыкі выратавалі мясцовую 79-гадовую пенсіянерку, якая атрымала вельмі сур'ёзныя раненні сэрца. Праўда, на гэту жанчыну ніхто не нападаў, яна сама атрымала траўму, калі палезла маляваць дах свайго дома. Па неасцярожнасці бабуля зваліўся з вышыні, упала спіной на металічны штыр, які прабіў цела. Арматуру зрэзалі выратавальнікі, падчас складанай аперацыі ў гарбальніцы хірургі запусцілі яе сэрца, якое спынілася. Частку прабітага лёгкага ў жанчыны прыйшлося выдаліць, зашыць рану і такім чынам цудам выратаваць жыццё чалавека. Пасля ўдалай аперацыі неўзабаве старая прыйшла ў сябе, стала размаўляць, у яе адключылі апаратуру штучнай вентыляцыі лёгкіх. Ёсць вялікая надзея, што яна паправіцца канчаткова на радасць родным і блізкім.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 16.06.16 | | | | Пятніца 17.06.16 | | | | Субота 18.06.16 | | | | Нядзеля 19.06.16 | | | | Пан. 20.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +19 | +17 | +20 | +18 | +15 | +20 | +22 | +24 | +22 | +18 | +22 | +21 | +16 | +20 | +24 | +21 | +14 | +20 | +25 |
| Ціск | 736 | 736 | 738 | 741 | 743 | 744 | 741 | 739 | 740 | 743 | 746 | 747 | 748 | 750 | 752 | 753 | 754 | 756 | 755 |
| Вецер м/сек | 4 Ю-В | 2 Ю-В | 3 З | 2 З | 3 Ю | 6 Ю | 9 Ю-В | 6 Ю | 5 Ю-З | 7 Ю-З | 8 Ю-З | 3 Ю-З | 2 Ю-З | 2 З | 2 Ю-З | 2 С-З | 2 В | 3 В | 5 В |
| Вільготнасць | 92 | 99 | 75 | 75 | 92 | 70 | 72 | 70 | 85 | 62 | 53 | 65 | 87 | 74 | 51 | 65 | 94 | 69 | 54 |

# Аб самым надзённым

## БЕЗ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМ АДСТАВАННЕ БЕЛАРУСІ АД РАЗВІТЫХ КРАІН СВЕТУ ТОЛЬКІ ПАВЯЛІЧЫЦЦА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Справа ў тым, што магчымасці айчыннага дзяржбюджэту сціплыя, расходы скарачаюцца і няма магчымасці, скажам шчыра, павышаць зарплаты бюджэтнікам, пенсіі, дзіцячыя дапамогі і стыпендыі.**

Вось ужо каторы тыдзень адной з асноўных тэм дзяржаўных СМІ застаецца ход падрыхтоўкі да прадстаячага чарговага Усебеларускага народнага сходу. Безумоўна, разам з прадстаячымі парламенцкімі выбарамі гэта будуць важнейшыя падзеі грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў 2016 годзе. На месцах, як заўсёды арганізавана, ужо правялі патрэбныя рэгіянальныя сходы ў духу часоў брэжнеўскага застою і ўсюды практычна аднадушна прагаласавалі за тых, хто 22-23 чэрвеня прыме новую Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на наступныя 5 гадоў.

Прэзідэнт у сваёй манеры выказаўся, што ў беларускую сталіцу "приедут толковые, грамотные трудяги". Каб не было сумненняў у скептыкаў, навошта праводзіць такі маштабны форум, вельмі падобны на ранейшыя з'езды кампартыі, глава дзяржавы заявіў, што ён будзе праводзіцца не дзеля нейкага піяру. Галоўная задача сарыентаваць грамадства на тое, як будзем жыць у 2016-2020 гадах і пры гэтым "никаких отходов от заявленных ранее целей быть не может". З моманту апошніх прэзідэнцкіх выбараў прайшло ўжо багата часу, і таму беларускае кіраўніцтва абазначае загадзя задачу аднавіць страчанае апошнім часам. І так прыгожа сталі гаварыць, што беларусам " желательно остаться в тренде мировой экономики, науки, прогресса … чтобы прирастать каждый год".

Аднак можна не сумнявацца, што адкрытай і чэснай дыскусіі на прадстаячым сходзе ў Мінску не будзе, не тая там аўдыторыя збярэцца, каб праводзіць эмацыянальныя спрэчкі, адстойваючы зразумелыя эканамістам экстра-класа і вучоным канцэпцыі, падыходы і ўпраўленчыя рашэнні, якія закрануць лёс мільёнаў. Наўрад ці там будуць гаварыць, якая зараз няпростая сітуацыя ў краіне, дзе падзёдна расце беспрацоўе, як цяжка стала жыць простым людзям пры малых заробках, якія да таго ж у сельскай мясцовасці рэгулярна затрымліваюцца. А не дай Бог хто ў правінцыі страціць работу, то тады бяда, бо свабодных вакансій мала, а вакол працягваюць працэсы "аптымізацыі штатаў і закрыцця неперспектыўных устаноў".

Нават па афіцыйнай статыстыцы, рэальная зарплата беларусаў у красавіку знізілася амаль на 4 %, хоць з пачатку года цэны ў нас не стаялі на месцы. Глава ўрада А. Кабякоў да таго ж раскрытыкаваў тыя дзяржпрадпрыемствы, дзе неабгрунтавана паднялі заробкі. Цікава, што яшчэ ў 2005 годзе па выніках той пяцігодкі ўлады ставілі задачу павысіць іх да 250 долараў. Пазней справіліся з лічбай у 2 разы большай, замахнуліся да 1000 долараў і вось тут наступіў такі аблом, што ў новай праграме развіцця Беларусі зусім няма ніякіх лічбаў па росце даходаў насельніцтва да 2020 года. Дасведчаныя людзі, між тым папярэджваюць, што беларусаў у новай пяцігодцы зноў чакаюць падобныя часы, як ужо было пасля развалу СССР.

Справа ў тым, што магчымасці айчыннага дзяржбюджэту сціплыя, расходы скарачаюцца і няма магчымасці, скажам шчыра, павышаць зарплаты бюджэтнікам, пенсіі, дзіцячыя дапамогі і стыпендыі. На гэты конт і расійскі прэм'ер Д. Мядзведзеў сказануў праўдуматку, што і ў суседзяў няма грошай на такія выплаты нават перад выбарамі ў Дзярждуму РФ. Горкая праўда ў тым, што Беларусь не выканала ніводнага паказчыка развіцця мінулай пяцігодкі і цяпер нам прыйдзецца нязвыкла жыць больш сціпла, па сродках, людзі будуць бяднець і яшчэ болей адставаць па ўзроўні жыцця ад цывілізаваных дзяржаў свету.

Сітуацыя становіцца ў гэтым годзе ўсё больш складаная, бо толькі ў красавіку айчынныя прадпрыемствы звольнілі на 20 тысяч чалавек болей, чым прынялі на працу. За мінулы год такі пакзчык, дарэчы, склаў 83,5 тысячы рабочых і служачых, многіх з якіх чакае падатак на "дармаедаў". Па росце беспрацоўя Беларусі зараз няма роўных на постсавецкай прасторы. Далейшыя прагнозы, на жаль, несуцяшальныя, паколькі рэальна Беларусь на сціплы эканамічны рост можа выйсці не раней 2018 года пры ўмове правядзення некаторых эканамічных рэформ. Незалежныя эканамісты шчыра кажуць, што мы будзем далей бяднець, пераходзіць у разрад дзяржаў трэцяга свету на ўзровень якога-небудзь Гандураса са 100-150 доларавымі пенсіямі і зарплатамі.

Беларускі лідар, праўда, забараніў упраўленцам на месцах рабіць такія вось песімістычныя прагнозы і ўпэўнены, як заўсёды, што краіна ні ў якім разе не адстане, пераадолее допушчаны ў мінулай пяцігодцы эканамічны спад. Нашы ўлады спадзяюцца найперш, што сусветныя цэны на нафту пачнуць паступовы рост і ажыве расійская эканоміка. Пакуль існуючая беларуская эканамічная мадэль правальвае адзін экзамен за другім на працягласць, за апошніх паўгода да 34,2 % вырасла доля стратных заводаў і фабрык у прамысловасці. Таму наўрад ці рашэнні прадстаячага сходу змогуць неяк паўплываць на паляпшэнне спраў у такіх вось праблемных вытворцаў.

## Дзень за днём

**"Газпрам" заявіў, што доўг за спажыты Беларуссю расійскі газ перавысіў 200 млн. долараў. Складскія запасы на айчынных заводах у красавіку выраслі больш чым на 500 млрд. рублёў. Чвэрць дзяжпрадпрыемстваў краіны сталі стратнымі. Знешні доўг Беларусі вырас за 4 месяцы ўжо на 652 млн. долараў. З-за дэнамінацыі за чэрвеньскія паслугі ЖКГ будуць двайныя цэны ў рахунках. Да канца года ў Беларусі ўвядуць электронныя пропускі на наведванне прыгранічча. У пачатку лета зноў падаражэлі асобныя віды цыгарэт. У першай змене працуюць 4,5 тысячы аздараўленчых лагераў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Урад краіны пачаў перамовы з партнёрамі ў Еўрасаюзе па ўвядзенні дадатковых санкцый супраць Расіі ў выпадку далейшага пашырэння яе агрэсіі ў Данбасе.

**Украіна.** Як і чакалася, асуджаная ў Расіі на 22 гады зняволення лётчыца і народны дэпутат Н. Саўчанка трыўмфальна вярнулася на радзіму ў абмен на 2-х "грушнікаў".

**Сірыя.** Амерыканскія ваенныя эксперты Stratfor паведамілі аб моцных ударах баевікоў Ігіл па адной з сірыйскіх авіябаз, якой карысталася і расійская ваенная авіяцыя.

**Аўстрыя.** Упершыню за 70 гадоў правячыя краінай дзве вядучыя партыі прайгралі на прэзідэнцкіх выбарах, главой дзяржавы стаў былы лідар Партыі зялёных А. Ван Беллен.

**Польшча.** З-за завышаных расійскіх цэн на газ урад краіны вырашыў не працягваць доўгатэрміновы кантракт з "Газпрамам" на пастаўкі паліва, які скончыцца ў 2022 годзе.

**Украіна.** У акупіраваным Крыме прэм'ер-міністр РФ Д. Мядзведзеў шчыра прызнаўся, што ў Расіі няма грошай на абяцаную ўладамі індэксацыю пенсій і калі будуць – невядома

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган заявіў, што ён не разумее патрабаванняў Масквы для паляпшэння ўзаемных адносін, над гэтым абодва бакі павінны працаваць сумесна.

**Кітай.** Народны банк краіны зноў знізіў абменны курс нацыянальнай валюты юаня да долара, пасля папярэдняй дэвальвацыі ў кітайцаў рэзка абваліліся іншыя рэгіянальныя валюты.

**Казахстан.** На саміце ЕАЭС у Астане глава Беларусі А. Лукашэнка заявіў аб адсутнасці роўных эканамічных умоў, эканамічная інтэграцыя буксуе, падае істотна тавараабарот.

**Францыя.** Работнікі чыгункі далучыліся да масавых акцый пратэсту супраць прапанаваных урадам змен працоўнага заканадаўства і спынілі працу, як і метро Парыжа.

**Сенегал.** Спецыяльны суд-трыбунал пакараў збеглага 73-гадовага прэзідэнта Чада Хісена Хабрэ пажыццёвым зняволеннем за злачынствы супраць чалавечнасці, катаванні.

**Германія.** Глава МЗС Ф. Штаймайер паведаміў аб магчымым паэтапным зняцці санкцый з Расіі ў выпадку нармалізацыі абстаноўкі на Данбасе, але "ДНР" абяцае далучэнне да РФ.

**Украіна.** Галоўнае ўпраўленне разведкі Міністэрства абароны заявіла, што Расія працягвае ўзмацняць войскі ў Крыме, дзе ўжо 100 самалётаў, 613 танкаў, іншая тэхніка.

**Швецыя.** Кампанія Vimek выйграла міжнародны тэндар на пастаўку ў Беларусь 124 адзінак сучаснай лесанарыхтоўчай шматаперацыйнай тэхнікі за кошт займа банка ВБ.

**Польшча.** Каб справіцца з нашэсцем жукоў-караедаў, на частцы тэрыторыі Белавежскай пушчы вымушаны былі пачаць высечку дрэў, яна не закране плошчу мясцовага нацпарку.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# МПЗ Беларусі просіць ІП да 1 ліпеня заплаціць адзіны падатак у сувязі з дэнамінацыяй




■ Кар. БЕЛТА

**Міністэрства па падатках і зборах Беларусі просіць індывідуальных прадпрымальнікаў - плацельшчыкаў адзінага падатку загадзя паклапаціцца аб своечасовай выплаце адзінага падатку за ліпень 2016 года ў сувязі з дэнамінацыяй, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе МПЗ.**

«У сувязі з правядзеннем дэнамінацыі афіцыйнай грашовай адзінкі Беларусі банкам прадастаўленае права 1 ліпеня 2016 года не ажыццяўляць разліковае і касавае абслугоўванне кліентаў альбо прыпыняць аказанне кліентам асобных відаў паслуг па ажыццяўленні банкаўскіх аперацый. Пры такіх абставінах, улічваючы, што апошнім днём выплаты адзінага падатку за ліпень 2016 года з'яўляецца 1 ліпеня, звяртаем увагу індывідуальных прадпрымальнікаў - плацельшчыкаў адзінага падатку на неабходнасць загадзя паклапаціцца аб своечасовай выплаце адзінага падатку», - падкрэслілі ў міністэрстве. У прэс-службе нагадалі, што ў адпаведнасці з арт.52 Падатковага кодэкса Беларусі ў выпадку выканання падатковага абавязацельства ў больш позні тэрміны ў параўнанні з установленымі заканадаўствам налічваюцца пені за кожны каляндарны дзень пратэрміноўкі, уключаючы дзень выплаты (спагнання), на працягу ўсяго тэрміну невыканання падатковага абавязацельства пачынаючы з дня, які ідзе за ўстаноўленым падатковым заканадаўствам днём платы падатку. Рашэнне аб правядзенні дэнамінацыі афіцыйнай грашовай адзінкі з 1 ліпеня 2016 года замацавана ўказам ад 4 лістапада №450. Дэнамінацыя будзе праведзена шляхам замены банкнот узору 2000 года, якія знаходзяцца ў звароце, на банкноты і манеты ўзору 2009 года ў суадносінах 10 000 да 1 беларускага рубля. Абмяняць старыя грашовыя знакі на новыя можна будзе з 1 студзеня 2017 года па 31 снежня 2019 года ўключна ў Нацыянальным банку, банках і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацыях Беларусі. З 1 студзеня 2020 года па 31 снежня 2021-га ўключна старыя грошы на новыя можна будзе абмяняць толькі ў Нацыянальным банку. З 1 студзеня 2022 года грашовыя знакі ўзору 2000 года будуць лічыцца несапраўднымі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У будучым насельніцтву, як папярэдзіў эканаміст Я. Раманчук, трэба рыхтавацца да максімальных заробкаў 200 долараў і пенсій меней 100 $, росту цэн і беспрацоўя.

**Гродна.** Канцэрн "Белнафтахім" пацвердзіў, што перамовы з расійскімі інвестарамі аб продажы пакета акцый ААТ "Гродна Азот" болей не вядуцца, там ідзе мадэрнізацыя.

**Брэст**. ААТ "Савушкаў прадукт" выйшаў на перапрацоўку 2 тысяч тон малака ў суткі, яго магутнасці разлічаны на 3 тысячы тон, штодзень выпускаюць яшчэ ўжо 75 тон сыроў.

**Мінск.** Суд Цэнтральнага раёна аштрафаваў на 6,3 млн. рублёў першага главу незалежнай Беларусі С. Шушкевіча за ўдзел у несанкцыянаваным Беларускім нацыянальным кангрэсе.

**Магілёў.** Следства выявіла, што на працягу звыш трох гадоў пад відам дэгустацыі намеснік дырэктара мясакамбіната крала каўбасу прадпрыемства, яе справа ў судзе.

**Фаніпаль.** З-за крызісу ў РФ расійская кампанія "Аэраэкспрэс" закупіць на мясцовым заводзе Stadler толькі 11 двухпавярховых цягнікоў на 184 млн. еўра, кантракт быў на 25.

**Мінск.** Пасля прастою МАЗ зноў вярнуўся на графік працы 5 дзён на тыдзень і на выпуск з 13 да 24 машын у суткі, але да канца года вырабіць іх толькі 6 тысяч (раней было 25).

**Бяроза.** Пасля арышту мільярдэра Ю. Чыжа ў райцэнтры больш месяца прастойвае яго камбінат сілікатных вырабаў з-за адсутнасці грошай на закуп сыравіны, а збыт ёсць.

**Мінск.** Міністэрства працы і сацабароны ўнесла прапанову аб павелічэнні памеру дапамогі па беспрацоўі, бо на праблемных прадпрыемствах занята 470 тысяч чалавек.

**Лунінец.** Каля апоўначы 15-гадовы навучэнец 1-га курса мясцовага прафкаледжа кінуўся пад поезд і атрымаў смяртэльныя траўмы, разглядаецца шэраг версій гэтай трагедыі.

**Мінск.** Сярод 25 гігантаў айчыннай індустрыі МТЗ летась найбольш скараціў штат працоўных – на 1846 чалавек, усяго ж з буйных заводаў звольнілі 14,4 тысячы чалавек.

**Бяроза.** Пасля трагічнай гібелі 3-гадовага хлопчыка ў метровым калодзежы грунтовых вод супраць майстра каналізацыі аграгарадка распачалі крымінальную справу за халатнасць.

**Мінск.** Мяркуючы па заявах А. Лукашэнкі, як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, дзеячам радыкальных прарасійскіх арганізацый шлях у новы парламент будзе перакрыты.

**Валожын.** З-за выкіда шкодных рэчываў з тэрыторыі малочнага камбіната ў вадаёме ў райцэнтры загінула шмат рыбы, эколагі выявілі ўрон прыродзе ў суме 143 млн. рублёў.

**Мазыр.** Галоўны трэнер зборнай Беларусі У. Шантаровіч прызнаў, што ў беларускіх алімпійскіх чэмпіёнаў па веславанні братоў Багдановічаў знайшлі сляды допінгу. *Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Двум мясцовым прадпрыемствам па перапрацоўцы рыбы "Сузор'е" і "Віцебскрыба" забаранілі поўнасцю пастаўкі ў Расію з-за закупак сыравіны ў Нарвегіі.

**Наваполацк.** З-за крызісу ўзровень беспрацоўя ў нафтаградзе павысіўся з 1,1 да 1,4 %, свабодных вакансій вельмі мала, другі год запар гарадскі бюджэт мае дэфіцыт.

**Віцебск.** Глава МУС Беларусі генерал-лейтэнант І. Шуневіч пацвердзіў, што пачалася праверка інфармацыі аб будзеле мясцовых падлеткаў у ваенізіраваных лагерах у Расіі.

**Полацк.** Завод "Тэхналіт Полацк" і будтрэст № 22 увайшлі ў лік толькі 9 прадпрыемстваў – даўжнікоў па зарплатах на Віцебшчыне ў маі, будтрэст могуць прызнаць банкрутам.

**Варапаева.** Абласны Эканамічны суд пачаў справу аб прызнанні банкрутам мясцовага завода ЖБВ, на ім засталося толькі 45 чалавек, прадпрыемства чакае ліквідацыя.

**Браслаў.** Дэлегацыя Саюза сельскіх гмін Падляскага ваяводства на чале з паслом Польшчы ў Беларусі К. Паўлікам наведала азёрны край і суседні Міёрскі раён.

**Орша.** З пачатку года на прадпрыемствах і ў арганізацыях раёна стварылі каля 150 новых рабочых месц, іх стане яшчэ болей на СП з удзелам інвестараў Даніі, Італіі. Славакіі.

**Сянно.** Да прадстаячых абласных "Дажынак-2016" у раённым цэнтры з'явіцца фантан для заказаных, скульптуры Сені і Вадзяніка на набярэжнай ля мясцовага возера.

**Віцебск**. За два апошнія гады жыхары вобласці сталі значна меней курыць, продаж цыгарэт у разліку на аднаго чалавека скараціўся ў 2 разы, да 6,8 пачкі за год.

**Мёры.** Раніцай яшчэ да пачатку экзаменаў мясцовую СШ № 3 наведаў нечаканы госць – малады лось, які разбіў 4 вокны на І-м паверсе, пераскочыў праз плот і ўцёк з раённага цэнтра.

**Ушачы.** За выдатнае веданне нямецкай мовы Інстытут імя Гётэ ўключыў вучня 10 класа мясцовай СШ П. Гардзіёнка ў міжнародную праграму месяца вучобы і адпачынку ў ФРГ.

**Полацк.** Падчас сваркі ноччу 20-гадовая гараджанка збіла малатком да смерці сваю 23-гадовую старэйшую сястру, яшчэ адна жанчына ўпала на металічны штыр, фарбуючы дом.

**Глыбокае.** Непрыстойным учынкам назвала старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі заяву глыбачаніна Я. Берніковіча аб фальсіфікацыі подпісаў камандай Т. Каракевіч, які здрадзіў паплечнікам.

**Віцебск.** У Летнім амфітэатры прайшлі ўрачыстасці з нагоды 25-годдзя з пачатку дзейнасці самых папулярных у вобласці газет "Віцьбічы" і "Вячэрні Віцебск".

**Докшыцы.** На ўрачыстасцях 50-годдзя дзіцячай школы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага адкрылі мемарыяльную дошку памяці земляка, кампазітара, які з'яўляецца аўтарам гімна Беларусі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# У Глыбокага скралі 18 гадоў гісторыі!

**Курыца – не птушка, а прапаршчык – не афіцэр! Ёсць такая народная прымаўка!**

Колькі не гартай розныя энцыклапедычныя даведнікі і Вікіпедыю таксама, заўсёды прачытаеш, накшталт: "Глыбокае, горад з 1940 года". На гэта можна было б і не звяртаць увагі. Ну, напісаў нехта адзін у першы раз такую фармуліроўку ў нейкай гістарычнай даведцы, а потым усе "навукоўцы", як кепскія школьнікі, "перадралі" сачыненне. Як ісціну ў першай інстанцыі – Глыбокае, горад з 1940 года.

Мы ўжо паведамлялі, што Глыбокае набыло статус горада ў 1921-м годзе. Гэта быў матэрыял – **"Герой не наш, але памяць аб ім застанецца назаўсёды,** альбо Хто надаў Глыбокаму статус горада?", які апублікаваны ў "ВГ" № 16 (837) ад 21 красавіка 2016 года. Статус горада Глыбокаму, «росчыркам пяра», надаў начальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі. Гэта значыць, што Глыбокае ўжо як 95 гадоў горад!

З гэтай нагоды, у 1935-м годзе, у якасці ўвекавечвання памяці Юзафа Пілсудскага і падвышэння Глыбокага да статуса горада, на пляцы 3 Траўня (цяпер 17 Верасня) быў пасаджаны дуб. Натуральна, пасля 17 верасня 1939 года гэты дуб выкарчавалі.

Нядаўна пабачыў досыць цікавы фільм аб адроджаным Беразвецкім манастыры, які падрыхтаваў тэлеканал «Беларусь-1». Да самога фільма не маю ніякіх крытычных заўвагаў. Фільм спадабаўся! Аднак, зноў чую дыктарскі тэкст за кадрам, накшталт: «І толькі з прыходам савецкай улады, у 1940-м годзе, Глыбокае набыло статус горада». Было адзначана, што, на жаль, у Глыбокім амаль не захавалася старадаўняя забудова, а толькі царква і касцёл.



**Глыбокае, 1930-я гг, вуліца Замкавая. Сёння, злева – 16-кватэрны дом па вул. Леніна, 3, у дальнім правым куце – старадаўні дом (з балконам), які існуе і сёння – вул. Леніна, 5.**

Што тут шкадаваць наконт страчанай гістарычнай забудовы, калі ўлады не ставілі на мэту яе захаваць! Пры ўзвядзенні 7-павярховага Дома Саветаў напрыканцы 1970-х-пач.1980-х было знесена шэраг прыстойных старадаўніх будынкаў. На здымках 1930-х гг, наогул, тут быў, вобразна кажучы – «Стары Горад». Маленькая Вільня!

Між тым, вяртаемся зноў да пытання: калі Глыбокае набыло статус горада? Атрымліваецца, што 18 гадоў знаходжання Глыбокага ў II Рэчы Паспалітай (з 1921 па 1939 гг) – выкраслілі з гісторыі. Гэта не гісторыя? Бо горад быў пад палякамі, а не пад саветамі! Як курыца – не птушка, а прапаршчык – не афіцэр!

Складальнікі розных гістарычных даведнікаў, нават і не ўяўляюць, што гэты перыяд у 18 гадоў можа быць чымсьці цікавым і адметным. Пішуць, што сталіцай Дзісненскага павету была Дзісна! А насамрэч, павет называўся Дзісненскім, а сталіца павету – горад Глыбокае. І такія прэцэдэнты былі і ёсць цяпер – Пліскі раён – цэнтр г.п. Падсвілле, Дунілавіцкі раён – цэнтр г.п. Варапаева, Пухавіцкі раён – цэнтр г. Мар'іна Горка.

Неяк, у пачатку 1980-х гг было свята вуліцы Маскоўскай, якое праходзіла на пляцоўцы ДТСААФ... Выйшаў на трыбуну мой сусед, парторг мясакамбіната таварыш Ромель. І як чалавек, які жыў за «польскім часам», пачаў казаць поўную «ахінею». Маўляў, пры палаках, у Глыбокім былі лужыны і гразь на вуліцах, і без гумовых ботаў ніяк не прайсці, і стрэхі былі саламяныя, ды крывыя платы!

Дарэчы, злева яскравае фота 1930-х – у Глыбокім былі тратуары і брук!

Ага! А хто ў 1936-м годзе заклаў яго родны Глыбоцкі мясакамбінат? Палякі! Праўда, гэта ўжо зусім іншая гісторыя, аб якой мы, неўзабаве, распавядзём.

Натуральна, сцверджанні, што Глыбокае займела статус горада толькі ў 1940-м годзе – не нанеслі глыбачанам маральна-псіхалагічнай траўмы, але ж трэба казаць і праўду! Глыбокае – горад з 1921 года!

# Царква, якую маляваў Драздовіч



**Свіла. Царква Праабражэння Гасподняга з розных ракурсаў. Не захавалася. Фота канца 1930-х гг.**
**Выява гэтай царквы часам сустракаецца на карцінах работы Язэпа Драздовіча.**

■ Уладзімір Скрабатун

**На Глыбоччыне было і захавалася некалькі выдатных помнікаў праваслаўнага драўлянага дойлідства. Тут адразу можна прыгадаць царкву Успення Прасвятой Багародзіцы ў Кавалях, якая была пабудаваная ў 1748 годзе.**

Аднак, на Глыбоччыне існавала яшчэ адна вельмі пекная царкоўка – Праабражэння Гасподняга ў Свіле. З яе стратай у 1964-м годзе Глыбоччына стала нашмат бядней...

Пабудаваная яна, як вынікае з сілуэта, у папулярным у 1930-я гг "закапанскім стылі". У гэтым стылі тады было ўзведзена і шмат касцёлаў і капліц, а таксама жылых дамоў.

— SUBWENCJE NA REMONTY CERKWI. Ministerstwo W. R. i O. P. przyznało tytułem subwencji na remont cerkwi w Łużkach 1.000 zł. oraz na wykończenie nowowzniesionej cerkwi w Swile gm. plisskiej — zł. 500.

**Вынятка з газеты "Kurjer Wileński", №106 ад 17.04.1935 г, дзе паведамляецца аб субсідыях коштам 500 злотых на заканчэнне будаўніцтва царквы ў Свіле Плiскай гміны. На рамонт царквы ў Лужках датавана – 1000 злотых.**

Мы адшукалі цікавы дакумент – публікацыю ў газеце "Kurjer Wileński" за 1935 год. Аказваецца, польская дзяржава субсідавала (датавала) будаўніцтва царквы ў Свіле. Міністэрства па справах рэлігіі і народнай адукацыі выдаткавала 500 злотых. Факт – больш, чым цікавы. Калі датуецца касцёл, то выглядае як бы натуральна, але польская дзяржава датавала і будаўніцтва праваслаўных цэркваў.

Што стала прычынай пажару? Не пагашаная свечка? Наўмысны падпал? На фоне знесеных у 1960-я гг праваслаўных храмаў (царква ў Сароках) згаранне свільскай царквы наводзіць на пэўныя высновы...

Калі б сёння ўзнікла неабходнасць ў храме для тамтэйшых праваслаўных вернікаў, то царкву можна было б адбудаваць наноў у тым самым стылі. Аднаўляюць жа на Беларусі знесеныя храмы! Аднак, калі закрываюцца школы ў вёсках, паштовыя аддзяленні і вясковых жыхароў становіцца ўсё менш, то гэтая задума, бадай што, уже не здзейсная.

# Выпадак у Віцебскай вобласці: трое маленькіх дзяцей ноч блукалі па лесе

**Трое дзяцей у Лепельскім раёне заблукалі і правялі ноч у лесе, паведаміла прэс-афіцэр аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязей УУС Віцебскага аблвыканкама Вольга Шкуратава.**

Хлопчыкі 5, 9 і 10 гадоў з розных сем'яў у вёсцы Заслонава гулялі разам у двары. Апошні раз іх бачылі каля 20.00, потым дзеці некуды зніклі. Дарослыя шукалі іх да цемры ўласнымі сіламі, затым звярнуліся ў міліцыю.

Па трывозе быў падняты ўвесь тэрытарыяльны аддзел унутраных спраў, падключыліся работнікі МНС, нават задзейнічалі службова-вышуковага сабаку. Толькі зранку, каля 6.20, на крыкі ўчастковых інспектараў з лесу выйшаў адзін з хлопчыкаў і адвёў да астатніх.

Як распавялі самі дзеці, яны пабеглі гуляць у лес, дзе знаходзіцца вайсковы палігон. Яны даганялі адзін аднаго і не заўважылі, што заблукалі.

Спрабуючы выбрацца, хлопчыкі так шмат пятлялі, што гэта збіла са следу пошукавага сабаку.

Дзеці блукалі па лесе да раніцы, нават паспелі крыху паспаць пад кустом. Калі хлопчыкаў знайшлі, ім аказалі псіхалагічную дапамогу, адагрэлі.

У шпіталізацыі дзеці патрэбы не мелі. І нават былі не надта напалоханыя.

*БелТА.*

# Спецыяльная рабочая група зоймецца стварэннем турыстычнага брэнда Беларусі

**Спецыяльная рабочая група зоймецца стварэннем турыстычнага брэнда Беларусі.Адпаведнаяінфармацыя размешчана на сайце Нацыянальнага агенцтва па турызме па выніках круглага стала "Канкурэнтаздольнасць Беларусі на сусветным рынку турыстычных паслуг. Брэнд Беларусі", паведамляе БЕЛТА.**

У склад рабочай групы ўвайшлі 12 чалавек. У будучым сустрэчы стануць праводзіцца на пастаяннай аснове з прыцягненнем спецыялістаў, у таксама прадстаўнікоў дзяржорганаў.

Уласны брэнд павінен з'явіцца і ў Нацыянальнага агенцтва па турызме.

На пасяджэнні круглага стала таксама абмяркоўвалася правядзенне сацыялагічных даследаванняў у турыстычных кампаніях. Узнімалася пытанне аб тым, што цяпер у Беларусі існуе праблема падліку турыстаў. Недасканаласць метадалагічнай прапрацоўкі даных у розных сферах не дае аб'ектыўнай карціны, па якой можна ацаніць беларускі турызм. У бліжэйшым будучым будуць уведзены сатэлітныя рахункі. Чакаецца, што гэта дасць удзельнікам рынку магчымасць аперыраваць статыстыкай у выбары эфектыўных рашэнняў па папулярызацыі краіны.

*БелТА.*

# Дуда гучала на фэстах у Параф'янаве і Удзеле



**Дудары Юрась Панкевіч** *(на здымку злева)* **і Віталь Воранаў** *(справа)* **выступілі на парафіяльных фэстах у Параф'янаве і Удзеле.**

**■ Зміцер Лупач**

Фэсту Параф'янаве адбыўся ў суботу, 11 чэрвеня. Прысвечаны ён быў успаміну святога Антонія, які Каталіцкі Касцёл адзначае 13 чэрвеня. Але з-за таго, каб свята магло наведаць больш людзей, фэст быў перанесены на суботу.

Параф'янаўскі фэст звычайна збірае шмат вернікаў: акрамя саміх парафіянаў, сюды прыязджаюць вернікі з суседніх парафій, шматлікія госці.

Так было і ў гэтым годзе. Адметнасцю фэсту было тое, што на яго прыехала мінская група "Рэха" з Андрусём Такіндангам і дудары Юрась Панкевіч з Ашмяншчыны і Віталь Воранаў з Удзела.

Таксама яны выступілі на фэсце ў Удзела ў панядзелак 13 чэрвеня.

Як прызнаўся Віталь Воранаў: "Мая мара – адрадзіць гэты інструмент у нашым рэгіёне. Мне хацелася б, каб на Глыбоччыне быў адмысловы фэст дудароў. З гэтай прапановай я звярнуўся да глыбоцкіх уладаў, яны мяне паабяцалі падтрымаць".

Юрась Панкавец, які не толькі лічыцца лепшым дударом у Беларусі, але і майстрам па іх вырабе, кажа: "Калі за справу возьмуцца такія апантаныя людзі, як Віталь, то ўсё атрымаецца. У Польшчы падобныя святы праходзяць, чаму нам не пераняць іх вопыт?".

У панядзелак 13 чэрвеня Віталь Воранаў і Юрась Панкевіч прэзентавалі дуду для супрацоўнікаў аддзела культуры ў Глыбоцкім ГЦК. Яны выступяць таксама на Вішнёвым фэсце.

# Аб захаванні мер электрабяспекі пры ажыццяўленні рыбнай лоўлі

**Глыбоцкае МРА філіяла "Энерганагляд" інфармуе, што нягледзячы на прынятыя меры прафілактычнага, тлумачальнага і арганізацыйнага характару па прадухіленні няшчасных выпадкаў, звязаных з паражэннем людзей электрычным токам у краіне працягваюць мець месца выпадкі электратраўматызму пры ажыццяўленні рыбнай лоўлі паблізу паветраных ліній электраперадач.**

**■ А. Крывёнак,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

24 красавіка 2016 года ў раёне паміж двума азёрамі жыхар г. Гомеля пры лоўлі рыбы паблізу паветранай лініі 10 кВ у пралётах апор наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да правадоў дзеючай паветранай лініі і быў паражоны электрычным токам (у месцы забароненым для рыбнай лоўлі). Пацярпелы знаходзіўся пад правадамі ВЛ-10 кВ у абгарэлай верхняй вопратцы без прыкмет жыцця, а таксама побач знаходзіліся фрагменты аплаўленага і абгарэлага вугляпластыкавага вудаўя, пластмасавае вядро і мабільны тэлефон.

5 чэрвеня гэтага года жыхар Магілёўскай вобласці пры лоўлі рыбы на вадаёме паблізу ВЛ-10кВ наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да правадоў ВЛ-10 кВ і быў смяротна паражоны электрычным токам.

Энерганагляд папярэджвае:

Электраўстаноўкі небяспечны – паражэнне чалавека электратокам можа адбыцца без непасрэднага дакранання да токаводных частак, часам дастаткова проста наблізіцца да іх на недапушчальную адлегласць. Усякага роду дзеянні ў непасрэднай блізкасці ад электраўстановак могуць прывесці да трагічных наступстваў.

**Не варта падвяргаць смяротнай небяспецы паражэння электрычным токам сваё жыццё і жыццё іншых людзей.**

# Падрыхтоўка да ацяпляльнага сезона 2016-2017 года

**Скончыўся ацяпляльны сезон 2015/2016 года. На аснове аналізу функцыянавання ў завяршыўшымся асенне-зімовым перыядзе сістэм цеплазабеспячэння і цеплавых сетак, а таксама ўлічваючы прадпісанні Дзяржэнерганадзора, спажыўцы цеплавой энергіі павінны распрацаваць мерапрыемствы па падрыхтоўцы ацяпляльнага сезона 2016/2017 года (улічваючы ўсе негатыўныя моманты ў праходжанні гэтага ацяпляльнага перыяду), скласці і зацвердзіць у выканкаме графікі адключэння цеплакрыніц і цеплавых сетак для правядзення выпрабаванняў, рамонтаў і наладкі.**

**■ Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

## ГРАФІК

**афармлення і рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці да асенне-зімовага перыяду 2016/2017 года прадпрыемстваў і арганізацый г. Віцебска і Віцебскай вобласці**

| № п/п | Назва спажыўца | Тэрміны стварэння камісіі па праверцы гатоўнасці энергаўстановак да працы ў АЗП 2016/2017 года | Тэрміны прад'яўлення энергаўстановак да агляду камісіяй па праверцы гатоўнасці да работы ў АЗП 2016/2017 года | Дата прад'яўлення афомленага пашпарта для рэгістрацыі ў органе Дзяржэнерганадзора |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Школы і дзяцячыя сады | да 15.07.2016 | 18.07-31.08.2016 | 01.09.2016 |
| 2 | Навучальныя ўстановы (ліцэі, ПТВ, каледжы, універсітэты і да т.п.) | да 29.07.2016 | 01.08-31.08.2016 | 01.09.2016 |
| 3 | Медыцынскія ўстановы | да 29.07.2016 | 01.08-31.08.2016 | 01.09.2016 |
| 4 | Жыллёвы фонд, які знаходзіцца на абслугоўванні ЖКГ, таварыствы ўласнікаў і да т.п. | да 15.07.2016 | 18.07-31.08.2016 | 01.09.2016 |
| 5 | Ведамасны жыллёвы фонд | да 29.07.2016 | 01.08-31.08.2016 | 01.09.2016 |
| 6 | Арганізацыі і ўстановы | да 29.07.2016 | 01.08-20.09.2016 | 30.09.2016 |
| 7 | Прамысловыя і прыраўнаваныя да іх прадпрыемствы, аграпрамысловыя прадпрыемствы | да 29.07.2016 | 01.09-20.09.2016 | 30.09.2016 |
| 8 | Цеплакрыніцы Мінжылкамгаса | да 19.08.2016 | 22.08-20.09.2016 | 23.09.2016 |
| 9 | Цеплакрыніцы іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання | да 31.08.2016 | 01.09-20.09.2016 | 30.09.2016 |
| 10 | Цеплакрыніцы якія знаходзяцца ў падпарадкаванні юрыдычных асоб недзяржаўнай формы ўласнасці | да 31.08.2016 | 01.09-20.09.2016 | 30.09.2016 |

Таксама павінны быць створаны камісіі па кантролі за ходам падрыхтоўкі і прыёмцы гатоўнасці да работы ў асенне-зімовы перыяд сістэм цеплазабеспячэння.

Нагадваем, што падрыхтоўка да асенне-зімовага перыяду будзе праводзіцца згодна з ТКП 388-2012 (02230/0230) "Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергазабеспячальнымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі", у адпаведнасці з якімі зменены тэрміны афармлення пашпартоў гатоўнасці да працы ў асенне-зімовы перыяд спажыўцоў цеплавой энергіі і цеплакрыніц да 1 кастрычніка.

Гатоўнасць аб'ектаў да работы ў асенне-зімовы перыяд афармляецца пашпартам гатоўнасці ў адпаведнасці з графікам, зацверджаным аблвыканкамам.



На падставе абласнога графіка распрацаваны раённыя, якія будуць накіраваны ўсім спажыўцам цеплавой энергіі. Удзел дзяржаўных інспектараў у камісіі па праверцы гатоўнасці спажыўцоў да працы ў АЗП будзе ажыццяўляецца па пісьмовых заявах.

Да спажыўцоў, якія не выканалі ўмовы гатоўнасці да работы ў асенне-зімовы перыяд да 1 кастрычніка 2016 года, філіялам "Энерганагляд" будуць ужытыя меры, прадугледжаныя артыкулам 20.11 .КоАП.

**Па ўсіх пытаннях, якія ўзніклі ў працэсе падрыхтоўкі да асенне-зімовага перыяду, звяртацца за даведкамі ў цеплатэхнічную інспекцыю Глыбоцкага МРА на тэл. 8-02156-2-87-04.**

# “Канікулы без дыму і агню”

**Канікулы! Лета! Пара прыгожая і доўгачаканая. Але менавіта ў перыяд летніх канікулаў нашых дзяцей можа чакаць шмат небяспек.**

■ **Алег Салодкі,**
*інспектар групы прапаганды Глыбоцкага РАНС*

Па статыстыцы, менавіта падчас летніх канікулаў рэзка ўзрастае колькасць трагічных выпадкаў з удзелам дзяцей, такіх як пажары ад дзіцячага свавольства з агнём, гібель на вадзе і шмат чаго іншага. Тая ж статыстыка паказвае, што найбольш сур'ёзнай групай рызыкі сярод дзяцей і падлеткаў з'яўляюцца дзеці ва ўзросце ад васьмі да дзесяці гадоў, аднак несумненна, што іншыя дзеці, як хлопчыкі, так і дзяўчынкі, таксама заслугоўваюць падвышанай увагі.

З мэтай папярэджання падобных надзвычайных сітуацый, гібелі і траўматызму дзяцей, а таксама правядзення адукацыйна-выхаваўчай работы ў галіне бяспекі жыццядзейнасці з падрастаючым пакаленнем у краіне будзе праходзіць прафілактычная акцыя “Канікулы без дымячы і агню”.

І каб падчас летніх канікулаў не здарылася трагедыі, служба выратавання Глыбоцкага раёна нагадвае асноўныя правілы бяспекі!

Самы просты і найбольш эфектыўны спосаб засцерагчы дзіця – у вырашэнні праблемы яго вольнага часу. Тут як лепшы варыянт – летні лагер. Вы будзеце спакайнейшымі, калі дзіця будзе ў полі зроку педагогаў.

Акрамя таго неабходна:

■ строга кантраляваць вольны час вашых дзяцей, ведаць, дзе яны і чым займаюцца; не дапускаць знаходжанне іх без суправаджэння дарослых у вячэрні і начны час;

■ выконваць часавы рэжым пры праглядзе тэлевізара і працы (гульні) на камп'ютары;

■ не дазваляць дзецям на роварах выязджаць на праезджую частку дарогі; не дазваляць дзецям самастойна кіраваць аўта- і мотатранспартам;

■ давесці да сваіх дзяцей патрабаванні правілаў пажарнай бяспекі: быць асцярожным пры кантакце з электрычнымі прыборамі;

■ выконваць бяспечныя правілы пры карыстанні газавымі прыборамі;

■ неабходна клапаціцца пра здароўе дзіцяці: выконваць часовыя рамкі пры загары, купанні;

■ дазваляць купанне на вадаёмах толькі ва ўсталяваных месцах і ў вашай прысутнасці ў цёплы час;

■ не распальваць вогнішчы на тэрыторыі горада, вёскі і тэрыторыі лясного масіву;

■ не ўжываць у ежу незнаёмыя грыбы і ягады;

■ неабходна быць асцярожным, уважлівым на вуліцы, пры пераходзе дарогі і выконваць правілы дарожнага руху;

■ таксама навучыцеся аказваць першую медыцынскую дапамогу пры няшчасных выпадках і навучыце гэтаму сваё дзіця.

**МНС інфармуе**
**на 14. 06.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 330;
Гібель людзей – 42, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.



**Супрацоўнікі МНС праводзяць працу ў дзіцячым лагеры.** *Фота www.berezino.by*

# Правілы электрабяспекі пры эксплуатацыі хатняй электраправодкі

**Электраправодка кватэры або дома – гэта крыніца падвышанай небяспекі для чалавека. Няправільная эксплуатацыя хатняй электраправодкі можа прывесці да негатыўных наступстваў, у прыватнасці паражэння людзей, якія эксплуатуюць электраправодку і ўключаюць у сетку бытавыя электрапрыборы, электрычным токам.**

■ **А.Сіўко,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Такім чынам, пытанне электрабяспекі пры абслугоўванні электраправодкі з'яўляецца досыць актуальным.

У дадзеным артыкуле разгледзем асноўныя правілы, якія тычацца тэхнічнага стану хатняй электраправодкі.

Перш за ўсё, варта адзначыць, што бяспечная эксплуатацыя электраправодкі магчымая толькі ў выпадку яе тэхнічнай спраўнасці. Калі электраправодка знаходзіцца ў нездавальняючым стане, то нават пры выкананні ўсіх правіл бяспекі, эксплуатацыя такой электраправодкі будзе небяспечнай.

Калі гаворка ідзе пра тэхнічны стан электраправодкі, то ў дадзеным выпадку неабходна ўлічваць стан усіх канструктыўных элементаў электраправодкі.

**Па-першае**, гэта галоўны **размеркавальны шчыт**, куды падводзіцца ўваходзячы сілкавальны кабель ад электрычных сетак, дзе ўсталёўваюцца патрэбаныя ахоўныя апараты, і праводзіцца падключэнне і адгалінаванне ўсіх ліній праводкі.

Усе **ахоўныя апараты** павінны быць тэхнічна спраўнымі і забяспечваць у поўнай меры свае ахоўныя функцыі. Таксама павінна быць забяспечана **рэзервовая ахова** электраправодкі, так як адзін з ахоўных апаратаў, устаноўленых на той ці іншай лініі праводкі, можа выйсці са строю і не адключыць пашкоджаны або працуючы ў ненармальным рэжыме ўчастак праводкі.

Таксама варта звярнуць увагу на якасць **кантактных злучэнняў** праваднікоў у размеркавальным шчытку, а таксама ў размеркавальных скрынках, усталяваных па дому (кватэры). Няякасныя кантактныя злучэнні прыводзяць да пашкоджання электраправодкі.

Электраправодка кватэры, асабліва ў памяшканнях з падвышанай вільготнасцю, а таксама там, дзе высокая верагоднасць патраплення працоўнага напружання на корпус, можа эксплуатавацца толькі пры наяўнасці прылады ахоўнага адключэння (УЗО) або камбінаванай прылады – дыфаўтамата.

**Выкананне дадзеных простых патрабаванняў паслужыць гарантам электрабяспекі для вас і вашых блізкіх.**

**Беражыце сябе!**



